**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№49 (713) 5 снежня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by




**Мансіньёр Алег Буткевіч – новапрызначаны біскуп Віцебскай дыяцэзіі.**
Інтэрвіруе Таццяна Смоткіна, г. Глыбокае.
*Працяг тэмы на стар. 5.*
*Фота Змітра Лупача.*



## ПАВАЖАНЫЯ ГРАМАДЗЯНЕ!

Дзяржаўтаінспекцыя Глыбоцкага РАУС просіць аказаць садзейнічанне ва ўсталяванні акалічнасцяў дарожна-транспартнага здарэння, якое мела месца 27.11.2013 года а 08.30 гадзіне ва ўрочышчы «Барок», а менавіта кіроўца неўсталяванага транспартнага сродку здзейсніў наезд на «тачку», якой кіравала жанчына 1937 года нараджэння, у выніку здарэння прычыненыя цялесныя пашкоджанні дадзенай жанчыне.

Калі Вы валодаеце якой-небудзь інфармацыяй пра дадзенае здарэнне, просім паведаміць у АДАІ Глыбоцкага РАУС па тэлефонах 2-33-02 ці 2-27-78, або па мабільным тэлефоне (МТС) 510-91-14. Ананімнасць гарантуецца.

**Загадзя ўдзячныя!**

***І.У Федаровіч, начальнік АДАІ.***

Аршанскі раён

# Нічога святога за душой

■ Станіслаў Раманчук

**У наш час падзенне нораваў і чалавечых душ дасягнула асаблівага цынізму, зло пачынае бавіць баль.**

Па ўсёй вобласці і краіне гучны грамадскі рэзананс набыло жудаснае забойства праваслаўнага святара. Раней такія злачынствы здараліся на расійскіх прасторах, цяпер яны дабраліся і да Беларусі. У перапоўненым вернікамі галоўным храме Оршы, царкве Раства Багародзіцы днямі развіталіся з 43-гадовым іеерэем айцом Аляксандрам, хоць ён служыў Госпаду і людзям у сціплым вясковым прыходзе. Напярэдадні трагедыі ён пашкадаваў двух маладых хлопцаў, якія выхоўваліся ў інтэрнаце, і часова даў ім прытулак у сваім доме. Жыццё ў іх не заладзілася і потым: працы не мелі, як і родных, хто б мог дапамагчы сродкамі для існавання. Сам жа бацюшка быў жанаты, але дзяцей не меў, таму і вырашыў дапамагчы гэтым трапіўшым у бяду маладым людзям. Аднак на дабрыню яны адказалі, як вырадкі, а ў ноч забойства напіліся да бяспамяцтва.

На гэтай глебе ўзнік канфлікт і адзін з мярзотнікаў нанёс святару некалькі нажавых раненняў, ад якіх настаяцель вясковай царквы памёр. На ягоным пахаванні многія не хавалі сваіх слёз, бо столькі добрага зрабіў святар тут. Ён раней вучыўся ў Смаленскім мединстытуце, скончыў і духоўнае вучылішча і быў добрым псіхолагам, верыў і дапамагаў людзям. Шмат намаганняў прыклаў святар Аляксандр Марозаў, каб яго 300-гадовы храм стаў прыгожым і велічным. За два дні да гібелі ён размаляваў сцяну святыні каля алтара ў колер неба. Яго чыстая душа, безумоўна, накіруецца ў лепшы свет, а вось арыштаваны душагуб павінен атрымаць па заслугах. Другі знаёмы забойцы вызвалены, бо не пацвярдзіўся ягоны ўдзел у гэтым жудасным злачынстве.

Пастаўскі раён

# Па новых тэхналогіях

■ Чэслаў Якубовіч

**У сярэдзіне восені сёлета на ААТ "Пастаўскі малочны завод" завяршылі будаўніцтва новага сучаснага цэха па вытворчасці сыроў.**

Паўстаў побач са старымі карпусамі фактычна новы завод коштам каля 17 млн. еўра. Спецыялісты з Чэхіі і Славакіі запусцілі ў эксплуатацыю абсталяванне фірмы "VPS", якая пры поўнай загрузцы дазваляе выпускаць да 20 тон прадукцыі ў суткі. Дагэтуль пастаўчане таксама выпускалі сыры, сярод якіх і свой галоўны брэнд – сыр "Тызенгаўз", але ў 10 разоў меней, толькі да 60 тон у месяц. Разлікі спецыялістаў завода паказалі, што такія аб'ёмы самыя аптымальныя, каб быць на плыву і ўстойліва развівацца. Пакуль новы сырзавод працуе толькі ў тэставым рэжыме. Для нармальнай дзейнасці неабходна завадчанам да канца года завяршыць будаўніцтва побач станцыі абезжалезвання вады з каналізацыйна-помпавай станцыяй. Аднак першыя гатункі выпушчаных новых сыроў парадавалі. На чарговай 24 міжнароднай выставе харчавання "Пецярфуд-2013" у Санкт-Пецярбурзе пастаўскі сыр "Галандскі Прэміум" завяваў залаты медаль. Яшчэ адна навінка сырок плаўлены " Паставы-гарадок" з доляй тлушчу 55 % адзначаны быў сярэбраным медалём. Дарэчы, на новым сырзаводзе намечаны выпускаць нават 19 розных найменняў сыру высокай якасці. Праўда, узнікае пытанне, дзе браць столькі малака. Для поўнай загрузкі абсталявання старога і новага заводаў неабходна штодзень мець 250 тон малака, а яго цяпер паступае сюды толькі 100 тон. Для пашырэння сыравіннай базы малзаводу могуць перадаць цэлы калгас, але без павышэння прадуктыўнасці статку на фермах раёна гэту праблему не вырашыць.

Аршанскі раён

# Растуць толькі даўгі

■ Кастусь Александровіч

**Яшчэ некалькі гадоў назад на дзяржаўным узроўні ставілася задача правесці маштабную рэканструкцыю айчынных льнозаводаў, каб яны сталі працаваць рэнтабельна і прыносіць у краіну валюту.**

Па адпаведнай праграме тэхпераўзбраення ў яе быў уключаны і Арэхаўскі льнозавод, што ў Аршанскім раёне. Там дзейнічае буйнейшы ў Еўропе льнокамбінат і для бліжэйшага партнёра гіганта галіны яшчэ ў 2012 годзе набылі сучасную вытворчую лінію па выпрацоўцы доўгага валакна вытворчасці Бельгіі. На новую лінію "Дэпартэтэ" не пашкадавалі і грошай, бо сама тэхніка каштуе больш 41 млрд. рублёў. Крэдытныя рэсурсы пайшлі заводу праз "Белаграпрамбанк" з аплатай на працягу 15 гадоў. Сваё пляччо дзяржпадтрымкі падставілі завадчанам і абласны бюджэт па аплаце часткі працэнтаў. На паперы ўсё было прадугледжана і сёлета восенню павінен быць закончаны мантаж бельгійскага абсталявання і да канца года лінія павінна была запрацаваць. Аднак сітуацыя там настолькі дрэнная, што разабрацца ў прычынах правалу прыехаў асабіста старшыня Камітэта дзяржканролю Беларусі Аляксандр Якабсон. Ён пераканаўся, што сёлета ніякага будаўніцтва не вялося, завод завінаваціў ужо 14 млрд. рублёў па аплаце ўзятых крэдытаў. Завадчанам далі яшчэ паўгода, каб выканаць намечанае, запрацаваць нарэшце без страт. Аднак зрабіць гэта будзе няпроста, бо слаба выконваецца сама праграма "Віцебскі лён". Марудна ідзе работа па стварэнні льнянога холдынга, са скрыпам вядзецца мадэрнізацыя Лёзненскага і Пастаўскага льнозаводаў, а на сямі іншых у вобласці да гэтай справы пакуль рукі не дайшлі.

# Аб самым надзённым

## ПАД МОЦНЫМ ЦІСКАМ КРАМЛЯ УРАД УКРАІНЫ ПРЫПЫНІЎ ЗБЛІЖЭННЕ З ЕЎРАСАЮЗАМ, АДНАК 58% УКРАІНЦАЎ ВЫСТУПАЮЦЬ ЗА ЕЎРАІНТЭГРАЦЫЮ



■ Аляксандр Цішкевіч

**Між тым 10 апошніх гадоў украінцы праводзілі працу па гарманізацыі свайго заканадаўства з еўрапейскім. Не кожны ведае, што большасць тэхнічных рэгламентаў Украіны, а дакладней 16 з 27 сфер поўнасцю супадаюць з параметрамі ЕС, а яшчэ 6 блізкія да еўрапейскіх.**

Напрыканцы восені сёлета бурныя падзеі ў суседняй з намі Украіне сталі ў цэнтры ўвагі большасці сусветных СМІ. Напярэдадні прыняцця лёсавызначальных для нацыі рашэнняў, дарэчы, украінцы, пачалі працэс дэмаркацыі сваіх граніц з Беларуссю працягласцю больш 1000 км. Тое, што цяпер адбываецца па абодвух берагах Дняпра, важна і для нас, але асабліва непакоіць кіраўніцтва Расіі, якое спачатку радавалася, што прымусіла сваіх украінскіх калег да рэзкай змены геапалітычнага курсу.

У Крамлі, напэўна, пацiралі рукі ад радасці, калі афіцыйны Кіеў вуснамі прэм'ер-міністра, рускага па нацыянальнасці М. Азарава аб'явіў аб спыненні падрыхтоўкі да падпісання пагаднення аб асацыяцыі з свабодным гандлі з ЕС, а таксама аб аднаўленні актыўнага дыялогу з Расіяй. Аднак цяперашняя Украіна – гэта не "стабільная і квітнеючая" Беларусь, дзе народ пакорна маўчыць, што б з ім не рабілі. Пакольк, па дадзеных статыстыкі, 58 % украінскай нацыі жадаюць з цягам часу жыць на Захадзе, а не на прасторах Усходу, дзе дамінуе Расія са сваімі састарэлымі тэхналогіямі і маніяй нейкай геапалічнай сваёй велічы.

Між тым 10 апошніх гадоў украінцы праводзілі Нашы суседзі ведалі, што пагадненне аб асацыяцыі з ЕС аб'ёмам больш 200 старонак і дадаткамі – больш 2000 прынясе ім дастаткова хутка найперш паляпшэнне ўзроўню жыцця, прыток інвестыцый і ў цэлым мадэрнізацыю Украіны.

Дагэтуль што яны мелі з Расіі? Газ на амаль 200 долараў даражэй, чым для немцаў ды яшчэ непрыкрыты дыктат і пагрозы, якія ўрэшце рэшт спрацавалі. Але ў свядомасці большасці украінцаў ужо закралася, што гадоў праз 10 рост іх матэрыяльнага дабрабыту складзе да 12 %. Прыклад суседняй з імі Польшчы, куды ўкраінцы ездзяць без віз, гэта пацвярджае. Пасля распаду СССР эканомікі суседзяў мала адрозніваліся, але цяпер ВУП польскі ў разы вышэйшы, чым ва Украіне. А вось уступленне яе ў Мытны саюз, як падлічылі ўкраінскія эканамісты і эксперты, у лепшым выпадку дасць рост ВУП ад 0 да 1 % , а яшчэ трэба будзе перайсці на расійскія тэхналогіі і стандарты.

Скажам шчыра, не надта любяць "хахлы" за многія крыўды свайго старэйшага брата з яго манапалістам "Газпрамам". У выніку мы ўбачылі, як у Кіеве, іншых буйных гарадах пачалiся "Еўрамайданы". Для Брусеrange было важна, як украінцы пачалі масавыя мітынгі, а месцамі і сутычкі са спецназам міліцыі супраць абуральнага рашэння свайго ўрада. І невыпадкова ўкраінскі прэзідэнт В. Януковіч паспяшаўся па тэлебачанні супакоіць свой народ, што краіна не адмовіцца ад еўрапейскай інтэграцыі. А на плошчах тым часам прамоўцы гнеўна асуджалі свайго лідара за таемную сустрэчу за закрытымі дзвярыма з У. Пуціным.

Моцна абураліся людзі, што расійскі прэзідэнт паабяцаў дапамогу ўкраінскаму калегу ў пераабранні на другі тэрмін у абмен за адмову ад еўраінтэграцыі і ўступленне ў Мытны саюз. Цяжка загадваць наперад, але вось апошняга, хутчэй усяго, не будзе. Больш рэальна ўбачыць пачатак новай каляровай рэвалюцыі, бо амаль палова ўкраінскага парламенту – гэта апазіцыя, у параўнанні з намі, значна больш уплывовыя незалежныя ўкраінскія СМІ, а галоўнае, што менталітэт нашых суседзяў ужо не прасавецкі. Яны шануюць сваё, нездарма ж папулярная спявачка Руслана і асуджаная кіраўнік урада Ю. Цімашэнка пачалі бестэрміновую галадоўку ў падтрымку еўраінтэграцыі.

Мяркуючы па ўсім, відавочны эканамічны шантаж, пагрозы і моцны ціск сваёй мэты не дасягнулі. Украіна проста ўзяла стратэгічную паўзу. Такая сітуацыя можа знаходзіцца ў падвешаным становішчы да лёсавызначальнага 2015 года, калі ўкраінцы выберуць сабе новага прэзідэнта. А пакуль яны жывуць з пачуццём горычы, але як вольныя людзі, будуць працягваць змагацца за сваю лепшую долю для роднай Бацькаўшчыны. Для нас жа беларусаў еўрапейскі выбар пакуль не актуальны. Ды і не можам мы самастойна прымаць важныя значэнні для нацыі і адстойваць свае правы, калі і бываем незадаволеныя, дык на кухнях, альбо ў курылках. А вось сама барацьба за канчатковы геапалітычны выбар Украіны толькі распачалася і яшчэ многа значных падзей чакае нас наперадзе.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 28.11.13 | | | | Пятніца 29.11.13 | | | | Субота 30.11.13 | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | 0 | +2 | +1 | -1 | -1 | -1 | -3 | -2 | -2 | -1 | -3 |
| Ціск | 735 | 738 | 738 | 736 | 731 | 725 | 725 | 723 | 722 | 722 | 727 | 734 |
| Вільготнасць | 89 | 93 | 84 | 90 | 94 | 100 | 79 | 92 | 96 | 100 | 91 | 94 |
| Вецер м/сек | 6 З | 4 Пн-З | 7 З | 6 Пд-З | 9 Пд-З | 8 Пд-З | 6 Пд-З | 7 Пд-З | 8 Пд | 4 Пд-У | 5 Пн | 4 Пн-З |

| | Нядзеля 01.12.13 | | | | Пнд.02.12.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | |
| Тэмпература | -4 | -5 | -4 | -6 | -6 | -5 | 0 |
| Ціск | 738 | 742 | 746 | 749 | 750 | 744 | 738 |
| Вільготнасць | 96 | 91 | 85 | 86 | 90 | 99 | 96 |
| Вецер м/сек | 2 Пн-З | 5 Пн-З | 5 Пн-З | 4 Пн-З | 4 Пд | 9 Пд | 4 Пд-З |

## Дзень за днём

**Улады Беларусі намецілі павысіць для насельніцтва кошт паслуг ЖКГ да 40 % іх сабекошту. Складскія запасы зноў павысіліся ў кастрычніку па ўсёй краіне, а для курыльшчыкаў зноў падаражэлі да 14 % цыгарэты. На канец бягучага года інфляцыя прагназуецца на ўзроўні 15-16 %. У краіне ўвялі ў эксплуатацыю толькі каля 60 % праблемных дамоў, будаўніцтва якіх зацягнулася. Спецыялісты назвалі правільнай ідэю аб'яднання гаспадарчых і агульных судоў. Болей 150 тысяч айчынных індывідуальных прадпрымальнікаў не ведаюць, па якіх правілах ім далей дазволяць гандляваць прадукцыяй легпрама. Інфарматыку ў беларускіх школах пачнуць выкладаць ужо з 2-га класа, а не з 6-га, як цяпер.**

# Важнейшыя навіны свету

**Іран.** Краіна пайшла на сур'ёзныя ўступкі і дазволіла МАГАТЭ доступ да сваіх ядзерных аб'ектаў і цэнтрыфуг для ўзбагачэння урану, згадзілася знішчыць 200 кг урану для бомб.

**Латвія.** Як картачны домік абрушыўся дах гіпермаркета "Максіма" ў Рызе, загінула шмат людзей ад празмернай колькасці будматэрыялаў і грунту для саду з тэрасай наверсе.

**Украіна.** Услед за Вярхоўнай Радай, адхіліўшай законы аб лячэнні Ю. Цімашэнка, урад краіны прыпыніў да радасці Крамля інтэграцыю з Еўрасаюзам, абураны многія ўкраінцы.

**ЗША.** Адначасова з Бруселем Дзяржэпартамент краіны быў расчараваны рашэннем улад Украіны спыніць працэс збліжэння з ЕС, не чакае ўкраінцаў на Усходзе росквіт эканомікі.

**Бельгія.** У ЕС усклалі адказнасць за адмову ад еўраінтэграцыі на аднаго чалавека, ад каго гэта залежыла – Віктара Януковіча, які не вытрымаў моцнага націску і шантажу Расіі.

**Расія.** Беларусі трэба, як заявіў прэм'ер-міністр РФ Д. Мядзведзеў, перайсці да рэальнага аб'яднання ў холдынг з КамАЗам альбо спыніць размовы пра гэта, якія ідуць з 2010 года.

**Лівія.** Пасля двух дзён шматлікіх перастрэлак і надзвычайнага становішча лівійцы выгналі са сталіцы Трыпалі брыгаду баевікоў з горада Місурата, краіна зноў на мяжы вайны.

**Таіланд.** У сталіцы краіны Бангкоку прайшлі масавыя хваляванні ўдзельнікаў "Марша мільёна дэманстрантаў" з патрабаваннямі адстаўкі карупцыйнага ўрада Й. Чынават.

**Італія.** Урад краіны аб'явіў нацыянальную жалобу па загінуўшым на Сардзініі ад паводку 18 суайчыннікаў, яшчэ каля тысячы італьянцаў засталіся без даху над галавой.

**Украіна.** Апазіцыя ў парламенце абвінавціла кіраўніцтва краіны ў дзяржаўнай здрадзе, прыгразіла імпічментам і масавымі акцыямі пратэсту з-за прыпынення еўраінтэграцыі.

**Шатландыя.** Урад вызначыў, што краіна стане незалежнай ад Англіі 24 сакавіка 2016 года, калі шатландцы ў наступным годзе выкажуцца за аддзяленне на рэферэндуме.

**Літва.** Прэзідэнт Даля Грыбаўскайтэ пацвердзіла, што краіна можа стаць 19-м членам зоны еўра ўжо ў 2015 годзе, бо ёсць устойлівы рост эканомікі і фінансаў дзяржавы.

**Расія.** Ініцыятарам краху Майстар-Банку стаў расійскі МУС за незаконнае адмыванне гадамі грошай, у савет дырэктараў банка ўваходзіць дваюродны брат У. Пуціна Ігар.

**Англія.** Міністр па іміграцыі Марк Харпер супакоіў англічан, что не чакае з 1 студзеня будучага года наплыву румын і балгар пасля зняцця абмежаванняў на іх занятасць.

**Францыя.** Беларускую пісьменніцу Святлану Алексіевіч за кнігу "Час сэканд-хэнд" узнагародзілі прэстыжнай прэміяй Prix Medicis за арыгінальны таленавіты твор.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Барысаў.** Ніводзін з новых аб'ектаў мадэрнізацыі "Барысаўдрэва" так і не ўдалося ўвесці ў эксплуатацыю пасля гучнага візіту А. Лукашэнкі, не навялі да канца і парадак паўсюдна.

**Масты.** На канец 2014 года перанеслі тэрміны завяршэння мадэрнізацыі "Мастоўдрэва" замест 2012, яго страты сёлета выраслі да 31 мільярд. рублёў, звольніліся 420 рабочых.

**Івацэвічы.** Даўгі "Івацэвічыдрэва" па крэдытах і займах перавысілі 1 трлн. рублёў, пад пытаннем пагашэнне банкаўскага крэдыту ў памеры 160 млн. еўра, бо рынак перапоўнены.

**Мінск.** Цяпер Беларусь, упэўнены палітолаг А. Фёдараў, будзе значна меней атрымоўваць дапамогі з Расіі, бо Крамлю прыйдзецца шмат грошай траціць на падтрымку Украіны.

**Жодзіна.** У калектыве БелАЗа ўстрывожыліся намерамі Расіі ўвесці і для беларусаў утылізацыйны збор, завод стаў адчуваць складанасці і на расійскім рынку збыту машын.

**Салігорск.** Замест чакаемых 5 млн. тон для ААТ "Беларуськалій" ва ўрадзе Беларусі на 2014 год скарэктавалі да 7 млн. тон прагноз-заданне па адгрузцы на экспарт калію.

**Слуцк.** За 2 гады цукрова-рафінадны камбінат пабудаваў сучасную фасовачную фабрыку вышынёй з 9-павярховы дом, яго футбольная каманда выйшла ў вышэйшую лігу.

**Мінск.** Холдынг "Белкамунмаш" выпусціў і сертыфікаваў новую мадэль нізкападлогнага сучлененага тралейбуса "Вітаўт", які можа ездзіць і без кантактнай сеткі па горадзе.

**Клімавічы.** У раёне прынялі ўзмоцненыя меры бяспекі і загадалі ўсім знішчыць свіней у сувязі з выяўленнем у суседнім Шумяцкім раёне Расіі ачага афрыканскай чумы свіней.

**Быхаў.** З-за аварыі і абвалу ўчастка трубы на глыбіні 6-7 м на каналізацыйным калектары райцэнтр застаўся без вады, быў арганізаваны падвоз пітной вады насельніцтву.

**Мінск.** Як паведаміў начальнік дэпартамента па грамадзянству МУС РБ А. Бягун, за мяжой у Расіі працуюць па дагаворах 300 тыс. беларусаў, яны не лічацца беспрацоўнымі.

**Ганцавічы.** Днём на выхадныя трагічна загінуў 2-гадовы хлопчык, калі дома на дыване стаў есці моркву і задыхацца, бацькі павезлі яго ў бальніцу, але там не выратавалі дзіця.

**Мінск.** Арганізатары чэмпіянату свету па хакеі чакаюць прыезд у сталіцу каля 20 тысяч замежных гасцей і балельшчыкаў, але 5 новых гатэляў яшчэ толькі будуюцца.

**Слуцк.** На мясцовым РУП "Слуцкія паясы" на нямецкім абсталяванні сатклалі пробны экземпляр славутых гістарычных аналагаў аўтэнтычных паясоў, з узорамі і афарбоўкай.

**Мінск.** Ніколі яшчэ хакеісты сталічнага "Дынама" не выступалі так жудасна дрэнна ў КХЛ, дзе яны прайгралі ўсе свае матчы на выездзе і сталі самай слабай камандай лігі.

# Прадпрымальнікам далі адтэрміноўку з сертыфікатамі на паўгода



■ Хартыя'97

**Улады адклалі ўвядзенне новых правілаў у адносінах да ІП. Пра гэта гаворыцца ў дакуменце, які атрымала РГА «Перспектыва» ад намесніка Міністра эканомікі. У ім пацвярджаецца інфармацыя аб тэрмінах сертыфікацыі, якія дзейнічалі раней.**

«Па інфармацыі Дзяржстандарту, гэты камітэт не выдаваў нарматыўных прававых актаў, якія змяняюць з 1 снежня 2013 г. правілы пацверджання ІП - плацельшчыкамі адзінага падатку патрабаванняў ТР МС 017/2011 «Аб бяспецы тавараў лёгкай прамысловасці». Да 1 ліпеня 2014 года на тэрыторыі Мытнага саюза ў дачыненні да тавараў лёгкай прамысловасці дзейнічае пераходны перыяд», - гаворыцца ў дакуменце.

Акрамя таго, у міністэрстве паведамілі, што па прапанове беларускага боку Еўразійская эканамічная камісія падрыхтавала і абмяркоўвае дзве змены ў тэхрэгламент аб бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці.

«Прадугледжана на падставе пратаколаў выпрабаванняў сыравіны і матэрыялаў праводзіць сертыфікацыю або дэкларыванне адпаведнасці гатовай прадукцыі, што дазволіць скараціць выдаткі заяўнікаў на пацверджанне адпаведнасці. Па шэрагу відаў прадукцыі абавязковая сертыфікацыя будзе заменена на дэкларыванне адпаведнасці», - гаворыцца ў адказе Мінэканомікі.

Нагадаем, на сустрэчы з прадстаўнікамі бізнес-саюзаў 15 лістапада ў Менску віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч заявіў, што 1 снежня пераходны перыяд спрошчанай сертыфікацыі для ІП будзе скасаваны, аднак у выніковым пратаколе гэта заява не фігуравала. Акрамя таго, прадпрымальнікі не выключалі магчымых змяненняў у падатковым заканадаўстве, якія б іх закранулі.

Гэтая нявызначаная сітуацыя прывяла да таго, што ІП сталі абмяркоўваць варыянт прыпынення сваёй дзейнасці ў святле верагоднага ўзмацнення жорсткасці правіл рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасці.

У выніку 1 снежня не працавалі прадпрымальнікі на рынках Барысава, Жодзіна і Рагачова, аднак большасць ІП працягнулі працаваць.

«Пакуль мы спынілі тое вар'яцтва, якое набліжалася на нас, прадпрымальнікаў. Мы змаглі пераканаць урад не ісці на крокі, пра якія казаў віцэ-прэм'ер Пракаповіч некаторы час таму, а менавіта пра неабходнасць з 1 снежня мець сертыфікаты ўсім. У нас наперадзе яшчэ шмат праблем і цяжкасцяў, але ўсе павінны ведаць, мы ўсё пераадолеем і ў нас усё атрымаецца, таму што наша справа правая і мы тая частка грамадства, з якой не лічыцца гэтай уладзе ўжо не атрымаецца», — кажуць прадпрымальнікі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** Міліцыя арыштавала 22-гадовага бяздомнага, які ноччу на падпітку забіў нажом 43-гадовага праваслаўнага святара А. Марозава, даўшага душагубу прытулак.

**Віцебск.** Суд пакараў 4 гадамі калоніі агульнага рэжыму раней судзімую цяжарную жанчыну, якая п'яная на вачах сваёй дачкі відэльцам пашкодзіла лёгкае пажылой маці.

**Верхнядзвінск.** На мясцовым масласырзаводзе завяршылі рэканструкцыю цэха па вытворчасці масла і малочнага комплекса калгаса "Ужыца-агра", цяпер філіяла завода.

**Обаль.** Палова вытворчых плошчаў мясцовага керамічнага завода сталі прастойваць, для завяршэння яго мадэрнізацыі не хапае 4,5 мільёна еўра, хоць прадукцыя ідзе нарасхоп.

**Падсвілле.** Пажарнікі выратавалі жыцці двух мужчын, калі позна вечарам 30-гадовы пагарэлец з-за звычкі курыць на падпітку ледзь не спаліў дом 60-гадовага знаёмага.

**Барань.** Новая аптэка ў гарпасёлку стала 275-й па ліку ў вобласці ў сістэме УП "Фармацыя", у ёй 75 аптэк на вёсцы, але 10 з іх без кадраў і працуюць вахтавым метадам.

**Докшыцы.** У сельгаспрадпрыемстве "АграБераснёўка" на ферме "Добрунь" адкрылі сучасную даільную залу з камп'ютарнай сістэмай даення 400 кароў "Паралель".

**Лепель.** Пламбір з глазурай і цукатамі мясцовага малочна-кансервавага камбіната атрымаў Гран-пры нацыянальнага конкурсу лепшых прадуктаў харчавання ў Беларусі "Чэмпіён смаку-2013".

**Талачын.** Са шматлікімі недаробкамі Жодзінскае БУ-1 праз 5 гадоў завяршыла ў райцэнтры рэканструкцыю кінатэатра "Колас", у ім будзе 3D кіназала на 280 месц.

**Мёры.** Для будаўніцтва новага завода коштам 200 мільёнаў еўра па вытворчасці да 150 тысяч тон у год белай бляхі і металічных лістоў выдзелілі 40 гектараў зямлі паблізу раённага цэнтра.

**Шуміліна.** У шэрагу месц раёна адбыліся святочныя мерапрыемствы з нагоды 70-годдзя вызвалення краю ад фашысцкіх захопнікаў з салютамі і духавым аркестрам.

**Віцебск.** Падчас правядзення Дзён Латвіі мясцовы музей Марка Шагала дамовіўся са сваімі калегамі з Даўгаўпілса аб абмене выставамі артцэнтраў Шагала двух краін.

**Чашнікі.** Работнік мясцовага райаграсервіса Дзяніс Раўлушэвіч стаў пераможцам абласнога конкурсу сярод маладых механізатараў у рабоце на трактарах МТЗ-1221.

**Полацк.** Гістарычнай сенсацыяй стала адкрыццё спецыялістамі амаль поўнасцю фрэсак XII стагоддзя часоў Ефрасінні Полацкай у мясцовай Спаса-Прэабражэнскай царкве.

**Бешанковічы.** Вечарам на полі каля вёскі Іванск невядомыя зламыснікі падпалілі салому, агонь знішчыў яе 6 тон у цюках, урон калгаса склаў 5 мільёнаў рублёў, пакуль не патушылі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**Кацярына Лаўрыненка:**

# Спадзяюся, што гэта выстава стане асновай дыяцэзіяльнага музея

■ Зміцер Лупач

**У будынку Віцебскай курыі 30 лістапада адкрылася выстава, прысвечаная гісторыі рыма-каталіцкага касцёла ў Віцебскай дыяцэзіі ў ХХ стагоддзі. Менавіта ў гэты час касцёл зазнаў моцны пераслед як з боку акупацыйных нямецкіх уладаў, так і з савецкіх камуністычных. Асабліва пацярпеў касцёл у гады ваяўнічага атэізму, калі зачыняліся касцёлы, культавыя будынкі ператвараліся ў клубы, склады, вытворчыя памяшканні, або проста разбураліся.**

Арганізатарка выставы – Кацярына Лаўрыненка. Выстава прымеркавана да году Веры, які быў аб'яўлены Папам Бенедыктам XVI і праходзіў у каталіцкім Касцёле з 11 кастрычніка 2012 года па 24 лістапада 2013 года. Па словах спадарыні Кацярыны, гэта выстава павінна нагадаць вернікам пра людзей, якія здолелі захаваць для нас Веру падчас пераследу.

На выставе прадстаўлена шмат экспанатаў з касцельных і кляштарных збораў, музея Мёрскай сярэдняй школы №3, які стварыў Вітольд Ермалёнак, а таксама з прыватных калекцый. Большасць экспанатаў прадставіў Друйскі кляштар. Сярод экспанатаў келіх дабраславёнага ксяндза Антонія Ляшчэвіча, арнат знакамітага ксёндза-паэта Казіміра Сваяка, кніга, якая належала ксяндзу Язэпу Германовічу, рэліквія дабраславёнага біскупа Матулевіча, рукапісная Біблія, малітоўнікі, напісаныя беларускай лацінкай.

Як кажа Кацярына Лаўрыненка, частка гэтых экспанатаў стане асновай музея Віцебскай дыяцэзіі, які павінен стварыцца ў бліжэйшы час.

Выстава будзе праходзіць да Калядаў, замовіць экскурсіі можна будзе па нядзелях пасля Імшаў, што праходзяць у катэдры Езуса Міласэрнага ў 9.30 і 11.30.



Экспанаты, якія прадставіў на выставе друйскі кляштар сясцёр эўхарыстак.




Прыміцыйны абразік першай імшы блаславёнага кс. Мечыслава Багаткевіча. Ксёндз Мечыслаў расстраляны 04.03. 1942 ва ўрочышчы Барок.




Беларускі каталіцкі малітоўкі віленскага выдання 1926 года беларускай лацінкай.

# Беларусь заняла першае месца сярод краін былога СССР па росце спажывецкіх цэн у кастрычніку і за дзесяць месяцаў 2013 года

**Беларусь заняла першае месца сярод краін былога СССР па росце спажывецкіх цэн у студзені-кастрычніку 2013 года, сведчыць праведзены БелаПАН аналіз звестак нацыянальных органаў статыстыкі.**

За дзесяць месяцаў цэны ў Беларусі павялічыліся на 12%. Далей ідуць: Расія — 5,3%; Казахстан, Малдова — па 3,6%; Арменія — 3,5%; Таджыкістан — 3,1%; Эстонія — 2,5%; Кыргызстан — 2%; Азербайджан — 1%; Літва — 0,6%; Грузія — 0,5%.

Цэны не змяніліся ў Латвіі, знізіліся ва Украіне (0,2%) і Туркменістане (0,5% — за студзень-верасень). Няма звестак з Узбекістана. У самаабвешчанай Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспубліцы цэны ў студзені-кастрычніку павысіліся на 2,9%.

У кастрычніку з паказчыкам росту цэн 1,9% Беларусь таксама заняла першае месца. Далей ідуць: Грузія (1,5%), Малдова (1,3%), Азербайджан (0,7%), Расія (0,6%), Кыргызстан, Украіна (па 0,4%), Арменія, Казахстан, Латвія і Таджыкістан (па 0,3%). Цэны знізіліся ў Літве (0,2%) і Эстоніі (0,3%).

Паводле вынікаў 2011 і 2012 гадоў Беларусь была першай па росце цэн сярод краін былога СССР (108,7 і 21,8%).

***Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.***



# У Віцебскай вобласці з-за падзення дрэў на ЛЭП былі адключаны ад электразабеспячэння 128 населеных пунктаў

**У Віцебскай вобласці з-за падзення дрэў на ЛЭП адключаны ад электразабеспячэння 128 населеных пунктаў, паведамілі ў Віцебскім абласным упраўленні МНС. Абясточаны 263 трансфарматарныя падстанцыі, 12 фермаў, пашкоджана 19 ліній электраперадачы.**

Адключэнне здарылася ў Бешанковіцкім, Гарадоцкім, Лёзненскім, Віцебскім, Докшыцкім, Пастаўскім, Аршанскім, Верхнядзвінскім, Полацкім, Расонскім, Ушацкім раёнах.

Паводле інфармацыі МНС, вядуцца аднаўленчыя работы, для падключэння электразабеспячэння задзейнічана 19 адзінак тэхнікі і 57 чалавек.

Паводле інфармацыі Рэспубліканскага гідраметэацэнтра, у многіх раёнах краіны 2 снежня захаваецца моцны парывісты вецер да 15-24 м/с.

***Марына Носава, БелаПАН.***

# За 27 гадоў у Беларусі ад СНІДу памерла больш за 1,8 тысячы чалавек

**З 1987 года па 1 лістапада 2013 года ў Беларусі памерла 3.340 ВІЧ-інфікаваных людзей, у тым ліку ў стадыі СНІДу — 1.878. Такія звесткі публікуе Нацыянальны статыстычны камітэт з нагоды дня барацьбы са СНІДам, які праходзіць ва ўсім свеце 1 снежня.**

За названы перыяд у Беларусі было зарэгістравана 15.412 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі. З 2000 па 2012 гады ўзровень першаснага захворвання вырас у 2,4 разу, у тым ліку сярод жанчын — у 3,6 разу, сярод мужчын — на 94,8%.

Удзельная вага людзей ва ўзросце 15—29 гадоў у агульнай структуры ВІЧ-інфікаваных складае 59%, аднак апошнімі гадамі доля моладзі з упершыню ўстаноўленым дыягназам пастаянна змяншаецца. Калі ў 2005 годзе гэты паказчык складаў 56,2%, то ў 2012 годзе — 32,1%, а за 10 месяцаў 2013 года — 28,4%.

З 2000 года па 2011 гады ў Беларусі адзначалася павелічэнне долі ВІЧ-інфікаваных жанчын — з 31,3 да 48,1%. У 2012 годзе ў параўнанні з папярэднім годам доля ВІЧ-інфікаваных жанчын знізілася на 4,1%. За 10 месяцаў 2013 года ўдзельная вага жанчын у агульнай колькасці ВІЧ-інфікаваных склала 48%.

Як вынік, расце колькасць інфікаваных дзяцей, народжаных ВІЧ-станоўчымі маці: калі ў 2000 годзе такіх дзяцей было пяць, то ў 2012-м — 16. За ўвесь перыяд назірання зарэгістраваны 243 выпадкі ВІЧ-інфекцыі сярод дзяцей да 14 гадоў.

З 1996 года самай неспакойнай па распаўсюджанні ВІЧ-інфекцыі з'яўляецца Гомельская вобласць, дзе ўзровень першаснага захворвання значна вышэйшы за сярэднерэспубліканскі. У 2012 годзе ён склаў 33 зарэгістраваныя выпадкі на 100 тысяч насельніцтва вобласці, у той час як у цэлым па краіне гэты паказчык складае 12,9. Самы нізкі ўзровень першаснага захворвання на ВІЧ-інфекцыю летась зарэгістраваны ў Гродзенскай вобласці — пяць выпадаў на 100 тысяч чалавек.

Згодна з вынікамі Многаіндыкатарнага кластарнага абследавання па ацэнцы становішча дзяцей і жанчын (МІКС4), праведзенага Белстатам у 2012 годзе, 99,9% жанчын і 99,7% мужчын ва ўзросце 15—49 гадоў чулі пра ВІЧ або СНІД. 97,1% жанчын і 95,2% мужчын ведаюць, дзе можна прайсці тэставанне на ВІЧ.

Праходзілі тэставанне на ВІЧ прыкладна 80% жанчын, прычым 26,4% — на працягу апошняга года. Сярод мужчын пра ВІЧ-статус даведваліся 63,9%, на працягу апошніх 12 месяцаў — 21,1%.

Паводле звестак Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, агульная колькасць ВІЧ-станоўчых людзей дасягнула 35,3 млн. У 2012 годзе інфекцыю набылі прыблізна 2,3 млн. чалавек, а 1,6 млн. чалавек, уключаючы 10 тысяч дзяцей, памерлі ад прычын, звязаных са СНІДам.

***Анастасія Салановіч, БелаПАН.***




**Усё ж у савецкія часы аўтобусныя павільёны ўзводзілі больш надзейныя – з цэглы. Цяпер любы цыклон – Хаўер альбо Юда – бляшаным павільёнам не пакідае ніякіх шанцаў.** *Фота Зміцера Лупача.*

# Прызначаны тры новыя біскупы ў Беларусі

**29 лістапада Папа Францішак прызначыў трох новых біскупаў у Беларусі: кс. Алега Буткевіча біскупам Віцебскай дыяцэзіі, кс. Юрыя Касабуцкага дапаможным біскупам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, кс. Іосіфа Станеўскага дапаможным біскупам Гродзенскай дыяцэзіі.**

Аб гэтым паведамляе адпаведны камунікат Апостальскай Нунцыятуры.

Біскупская сакра будзе ўдзелена біскупу намінату Алегу Буткевічу 18 студзеня ў віцебскай катэдры а 12-й гадзіне, біскупу намінату Юрыю Касабуцкаму 25 студзеня ў мінскай архікатэдры а 11-й гадзіне, біскупу намінату Іосіфу Станеўскаму 1 лютага ў гродзенскай катэдры а 12-й гадзіне.

### Яго Эксцэленцыя мансіньёр Юрый Касабуцкі



Нарадзіўся 15 лютага 1970 г. у Маладзечне на тэрыторыі сучаснай Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Перад паступленнем у Вышэйшую духоўную семінарыю ў Гродне (1991 г.) вучыўся ў Беларускім дзяржаўным інстытуце народнай гаспадаркі і адбыў вайсковую службу.

Прэзбітэрскае пасвячэнне прыняў 7 снежня 1996 г.; з'яўляецца прэзбітэрам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Выконваў абавязкі вікарыя парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны і св. Станіслава ў Магілёве і адміністратара парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Вілейцы. З 1999 г. па 2001 г. вучыўся ў Люблінскім каталіцкім універсітэце (Польшча), дзе атрымаў ступень ліцэнцыята тэалогіі. З 2001 г. па 2004 г. выконваў абавязкі прэфекта Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі ў Пінску. У 2004 г. прызначаны дырэктарам Сакратарыяту Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі. З 2005 г. выконвае абавязкі канцлера курыі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. З 2006 г. з'яўляецца таксама адміністратарам парафіі Найсвяцейшай Тройцы (св. Роха) на Залатой Горцы ў Мінску. З'яўляецца выкладчыкам у Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі ў Пінску і Катэхетычным каледжы імя св. Яна Хрысціцеля ў Мінску.

### Яго Эксцэленцыя мансіньёр Іосіф Станеўскі



Нарадзіўся 4 красавіка 1969 г. у Заневічах на тэрыторыі сучаснай Гродзенскай дыяцэзіі. Пасля вайсковай службы і працоўнага досведу паступіў у Вышэйшую духоўную семінарыю ў Гродне (1990 г.).

Прэзбітэрскае пасвячэнне прыняў 17 чэрвеня 1995 г.; з'яўляецца прэзбітэрам Гродзенскай дыяцэзіі. У тым жа годзе быў прызначаны вікарыем парафіі Св. Вацлава ў Ваўкавыску. Пасля крыху больш чым гадавой душпастырскай паслугі быў скіраваны ў Люблінскі каталіцкі ўніверсітэт (Польшча), дзе атрымаў ступень ліцэнцыята кананічнага права. У 1999 г. быў прызначаны выкладчыкам і прэфектам Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне. З 2000 г. з'яўляецца суддзёй, а з 2005 г. – віцэ-афіцыялам Міждыяцэзіяльнага касцёльнага суда ў Гродне. З 2004 г. выкладае кананічнае права ў Катэхетычным інстытуце ў Гродне. 23 чэрвеня 2005 г. быў прызначаны рэктарам Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне. З'яўляецца членам Біскупскай рады і Калегіі кансультантаў Гродзенскай дыяцэзіі. У 2007-2013 гг. быў адказным за душпастырскую фармацыю маладых святароў у Гродзенскай дыяцэзіі. З 2009 г. з'яўляецца каардынатарам душпастырства пакліканняў. У 2012 г. быў прызначаны капеланам Яго Святасці.



## Мансіньёр Алег Буткевіч – новапрызначаны біскуп Віцебскай дыяцэзіі

■ **Зміцер Лупач,**
*тэкст і фота.*



Францішак Кісель віншуе новага біскупа.

Аб'яўленне новага біскупа адбылося 29 лістапада ў Віцебскай катэдры ў 12 гадзін па рымскім часе, што адпавядае 14 гадзінам у Беларусі. Менавіта ў 12 гадзін па рымскім часе Апостальская сталіца звычайна аб'яўляе аб прызначэнні новых біскупаў. Адначасова Папа Францішак прызначыў кс. Юрыя Касабуцкага дапаможным біскупам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і кс. Іосіфа Станеўскага дапаможным біскупам Гродзенскай дыяцэзіі.

Для таго, каб аб'явіць пра рашэнне Папы, у Віцебскую катэдру Езуса Міласэрднага прыбыў Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці. На сустрэчы прысутнічалі святары, сёстры законныя, прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі.

"З радасцю аб'яўляю Вам, што Папа Францішак прызначыў біскупа Віцебскай дыяцэзіі, шаноўнага прэзбітара Алега Буткевіча, які ў дадзены момант выконвае абавязкі пробашча ў парафіі св. Антонія Падуанскага і дэкана Віцебскага», – прамовіў арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці да прысутных.

Ён заклікаў вернікаў маліцца за новага біскупа, а таксама падзякаваў Апостальскаму Адміністратару кс. Францішку Кісялю за яго працу.

Біскупская сакра будзе ўдзелена біскупу Алегу Буткевічу 18 студзеня ў віцебскай катэдры ў 12 гадзін.

Яго Эксцэленцыя мансіньёр Алег Буткевіч нарадзіўся 18 сакавіка 1972 года ў вёсцы Герасімова Браслаўскага раёна на тэрыторыі сучаснай Віцебскай дыяцэзіі.

Скончыў Беларускі дзяржаўны аграрны тэхнічны ўніверсітэт, у 1994 годзе паступіў у Гродзенскую вышэйшую духоўную семінарыю, якую закончыў у 2000 годзе.

Прэзбітэрскае пасвячэнне прыняў 13 мая 2000 года, з'яўляецца прэзбітэрам Віцебскай дыяцэзіі. Выконваў абавязкі вікарыя парафіі ў Наваполацку і Мёрах, абавязкі пробашча парафіі ў Бешанковічах і Уле. З 2003 года – пробашч парафіі Святога Антонія Падуанскага ў Віцебску і дэкан дэканату Віцебск-Паўночны.

# Жыхар Докшыцкага раёна перапісаў Новы запавет

■ **Зміцер Лупач,**
*тэкст і фота.*

**Жыхар вёскі Кіякова Докшыцкага раёна Рамуальд Ліпчык у 70-я гады мінулага стагоддзя перапісаў Новы запавет і Псалтыр.**

Як сцвярджае спадар Рамуальд, ён усё жыццё шукаў праўды і знайшоў яе ў Божым слове. У савецкія часы Біблія была забароненай кнігай, за яе захоўванне каралі. Ён пазычыў гэту кнігу ў жыхаркі вёскі Грабучае ў 1977 годзе, паўгода пайшло ў яго на тое, каб перапісаць яе.

Паказальны той факт, што Рамуальд Ліпчык не быў тады ні рэлігійным філосафам, ні прадстаўніком якой-небудзь гуманітарнай прафесіі, ён працаваў кавалём у саўгасе "Сітцы".

Зараз маладым чытачам гэта можа падацца дзіўным, але ў савецкія часы просты чалавек не мог нават свабодна набыць друкарскай машынкі. Сітуацыя змянілася толькі падчас перабудовы. Тады ж, у 1985 годзе, спадар Ліпчык набыў гэту машынку і перадрукаваў свае тэксты.

Рамуальд Ліпчык і зараз у свае 84 гады кожны дзень чытае Божае слова і ведае яго амаль на памяць. Яго рукапісныя і перадрукаваныя на машынцы тэксты можна пабачыць на выставе гісторыі Віцебскай дыяцэзіі, якая зараз адчынілася ў віцебскай катэдры.



с целованием святым.
Приветствуют вас все церкви Христовы.
17. Умоляю вас, братия, остерегайтесь производящих разделения и соблазны, вопреки учению, которому вы научились, и уклоняйтесь от них;
18. Ибо такие люди служат не Господу нашему Иисусу Христу, а своему чреву, и ласкательством и красноречием обольщают сердца простодушных.
19. Ваша покорность вере всем известна; посему я радуюсь за вас, но желаю, чтобы вы были мудры на добро и просты на зло.
20. Бог же мира сокрушит сатану под ногами вашими вскоре. Благодать Господа нашего Иисуса Христа с вами! Аминь.
21. Приветствуют вас Тимофей, сотрудник мой, и Луций, Иасон и Сосипатр, сродники мои.
22. Приветствую вас в Господе и я Тертий, писавший это послание.
23. Приветствует вас Гаий, страннолюбец мой и всей церкви. Приветствует вас Ераст, городской казнохранитель, и брат Кварт.
24. Благодать Господа нашего Иисуса Христа со всеми вами. Аминь.

ОТ МАРКА
СВЯТОЕ
БЛАГОВЕСТВОВАНИЕ.

ГЛАВА 1.
1. Начало Евангелия Иисуса Христа, Сына Божия,
2. Как написано у пророков: «вот, Я посылаю Ангела Моего пред лицем Твоим, который приготовит путь Твой пред Тобою».
(Малах. 3.1).
3. «Глас вопиющего в пустыне: приготовьте путь Господу, прямыми сделайте стези Ему».
(Исаия 40.3).
4. Явился Иоанн, крестя в пустыне и проповедуя крещение покаяния для прощения грехов.
5. И выходили к нему вся страна Иудейская и Иерусалимляне, и крестились от него все в реке Иордане, исповедуя грехи свои.
6. Иоанн же носил одежду из верблюжьего волоса и пояс кожаный на чреслах своих, и ел акриды и ди



# Электрабяспека ў навагоднія святы

**Ішуцін А.Н.**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА «Энерганагляду».*

**Новы Год, Каляды, Стары новы Год – любімыя народныя святы. Прысутнасць на свяце яліны, упрыгожанай разнастайнымі гірляндамі, агеньчыкамі, - абавязковы атрыбут навагодніх імпрэз. У сувязі з гэтым неабходна памятаць наступнае:**

- праверце памяшканні на адпаведнасць іх патрабаванням пажарнай бяспекі;
- ахавайце яліну і гірлянды ўпрыгожванняў ад выпадковага дакранання да праводкі і лямпачкам дзяцей;
- выкарыстоўвайце для ілюмінацыі ялін і памяшканняў гірлянды электрычных лямпачак з напругай сілкавання не вышэй 42В, пры выкарыстанні сеткі на 220В ужывайце прылады ахоўнага адключэння (УЗА);
- у пазбяганне прабоя ізаляцыі не падвешвайце гірлянды ўпрыгожванняў на металічныя прадметы, сістэмы ацяплення, металічныя трубаправоды;
- не ўжывайце не герметычныя свяцільні на адкрытым паветры яны прызначаныя для выкарыстання толькі ў памяшканнях;
- пры арганізацыі правядзення кірмашоў і іншых урачыстых мерапрыемстваў на адкрытым паветры, падключэнне групавых разетак для ўключэння электраабстаўлявання варта выконваць толькі з ужываннем прылад ахоўнага адключэння;
- праверце спраўнасць прылад абароны электраправодкі ад токаў кароткага замыкання.
- не пакідайце без нагляду ўключаныя гірлянды і іншыя асвятляльныя ўпрыгожванні.

Як бачна, захаваць святочны настрой не так ужо і складана, неабходна проста памятаць і выконваць элементарныя правілы электрабяспекі.

# Важным аспектам з'яўляецца і бяспека дзіцяці

**Андрэй Андрыеўскі,**
*інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі.*

Бацькі, штодня адпраўляючы сваё дзіця ў школу, як правіла, даюць масу карысных навучанняў - каб добра вучыўся, не сваволіў і г.д. Але нароўні з гэтым важным аспектам з'яўляецца і бяспека дзіцяці.

Пільнасць трэба выяўляць тады, як толькі Ваш вучань пераступіў парог дома. Дарога ў школу і зваротна часам можа прыносіць вельмі непрыемныя неспадзеўкі, таму лепш, каб дзіця хадзіла разам з таварышамі ці выбірала шлях, які дазволіць увесь час быць на віду ў людзей.

Забараніце дзецям прымаць якія-небудзь прапановы ад незнаёмцаў (падвезці, прагуляцца, купіць марозіва і т.д.). Папярэдзьце, што давяраць ім ні ў якім разе нельга, нават калі яны сцвярджаюць, што з'яўляюцца, сябрамі бацькоў. Правядзіце тлумачальную працу па абыходжанні з мабільнымі тэлефонамі, плэерамі і іншай тэхнікай: распавядзіце, што, дэманструючы не наяўнасць у грамадскіх месцах (крамах, рыпынках), яны могуць стаць ахвярамі злодзеяў.

Школа – месца шматлюднае. І складанасць у тым, што, апынуўшыся ў крытычнай сітуацыі, дзеці не заўсёды рэагуюць правільна. Растлумачце, што галоўны вораг у экстрэмальных акалічнасцях - паніка. Значна эфектыўней тут будуць уважлівасць і спакой. Дзіця павінна разумець, што, калі паўсталі нейкія праблемы, першапачаткова трэба паведаміць пра гэта педагогу ці адміністрацыі, а затым выразна следаваць іх указанням.

Адна з самых небяспечных сітуацый, якая можа адбыцца ў навучальнай установе – пажар. У такім разе перш за ўсё неабходна апавясціць выкладчыка – у гэты момант усё залежыць ад яго дзеянняў. Агонь распаўсюджваецца даволі хутка, што прыводзіць да падвышэння тэмпературы і ўтварэння шчыльнага задымлення.

Для пачатку варта патэлефанаваць у службу выратавання па тэлефоне 101 ці 112. Затым неадкладна арганізаваць эвакуацыю дзяцей. Калі ўзгаранне нязначнае і пагрозы для жыцця і здароўя школьнікаў не ўяўляе, то трэба ўзяць усе асабістыя рэчы, апранууца і толькі потым выйсці на вуліцу.

Ні ў якім разе нельга губляць ні хвіліны: збіраць падручнікі і бегчы ў гардэроб за рэчамі ў такой сітуацыі не варта. Пры моцным задымленні выкарыстанне сродкаў абароны органаў дыхання: ватова-марлевых павязак, змочаных вадой хустак ці іншых рэчаў – абавязковае. Калі шляхі эвакуацыі адрэзаны агнём, дзеці пад кіраўніцтвам настаўнікаў павінны вярнуцца ў класы, зачыніць дзверы, вентыляцыйныя краты і чакаць прыбыцці працаўнікоў МНС,

Што ж датычыць правілаў паводзін у сценах школы ў цэлым, то яны зводзяцца да некалькіх простых ісцін. Кожны навучэнец павінен усведамляць, што асабістая бяспека – гэта не што іншае, як вынік яго адносінаў да вызначаных патрабаванняў. Растлумачце дзецям, што, бегаючы адзін за другім, скачучы па прыступках, пхаючыся на калідорах, яны могуць атрымаць сур'ёзную траўму. Звярніце ўвагу на абутак дзіцяці – падэшва не павінна слізгаць. Таксама нагадайце яму, што нельга адкрываць вокны без дазволу педагога і сядзець на падваконніках.

У школе дзеці праводзяць вялікую частку свайго часу, і тут даводзіцца размічаваць толькі на іх здольнасць выконваць элементарныя правілы бяспекі, навучанне якіх – першарадная задача бацькоў. Важна з ранняга ўзросту выхоўваць у дзіцяці пачуццё самазахавання, навучыць яго быць пільным і асцярожным. І не мае значэння маля гэта ці падлетак, ваша мэта - даць дзіцяці тыя веды і навыкі, валоданне якімі стане гарантыяй яго бяспекі!



## ЛУЧАЙ запрашае на «МІКАЛАЙКІ»!!!

**Святочная святая Імша, канцэрт і падарункі ад св. Мікалая.**

Пачатак а 10 гадзіне ў Лучайскім касцёле 8 снежня.

# Каб Ваш настрой не быў сапсаваны – набывайце яліны ў месцах іх законных продажаў

**А.Г. Абрамчык,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Снежань – апошні месяц года. Ён прыносіць шмат клопатаў, асабліва з набліжэннем Навагодніх святаў, час падумаць пра набыццё навагодняй яліны.

Які кожны год на тэрыторыі раёна будуць арганізаваныя пераднавагоднія елкавыя кірмашы, на якіх і неабходна набываць яліны.

Але, нягледзячы на ўсе высілкі лясгасаў забяспечыць грамадзян навагоднімі ялінамі па вельмі даступных коштах, знаходзяцца ахвотнікі займець навагоднюю прыгажуню дарма, але, як вядома, «бясплатны сыр толькі ў пастцы». Супрацоўнікі міжрайінспекцыі заклікаюць грамадзян не здзяйсняць неабдуманых учынкаў і не парушаць ляснoe заканадаўства.

Паводле пастановы Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь ад 20 сакавіка 2001 года №4, пункт 53: «Нарыхтоўка навагодніх ялін ажыццяўляецца»:

- на адмыслова створаных плантацыях навагодніх ялін;
- пры правядзенні рубак догляду ў лясах, з ліку дрэў, якія высякаюцца ў адпаведнасці з лесаводчымі патрабаваннямі;
- у парадку расчысткі трас, прасек, палос адвод, ліній электраперадач, на пасеках галоўнага карыстання і суцэльных санітарных рубак, калі на дадзеных пасеках падрост не падлягае захаванню».

Грамадзяне, самастойна займацца нарыхтоўкай ялін не маюць права. За незаконную парубку дрэў паводле арт. 15.22 Ко АП Рэспублікі Беларусь прадугледжваецца адміністрацыйная адказнасць ад 5 да 50 базавых велічынь, а на індывідуальных прадпрымальнікаў ад 10 да 150 базавых велічынь, таксама парушальнік аплачвае нанесеную шкоду. Пры перавозцы елкі ва ўладальніка пры сабе павінна быць квітанцыя, якая пацвярджае законнасць яе набыцця.

У мэтах прадухілення незаконных парубак ялін супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету сумесна з працаўнікамі лясгасаў і міліцыі штодня будуць праводзіцца рэйдавыя мерапрыемствы, затрыманыя за парушэнні грамадзяне прыцягваццадаадміністрацыйнай адказнасці.

Каб ваш настрой не быў сапсаваы ў Навагоднія святы, рэкамендуем набываць яліны ў месцах іх законных продажаў, якія будуць арганізаваныя ў шматлікіх населеных пунктах раёна і па даступных коштах.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 8-02156-2-86-70 «гарачая лінія», мабільныя : 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.




*Аляксея Акулёнка*

**Віншуем з нагоды Дня народзін**



Хочешь – верь,
Хочешь – не верь,
Где-то рядом бродит зверь.
Не в лесу живет дремучем,
В русском языке могучем.
Этот зверь зовется «лось» –
Издавна так повелось.
Пусть с тобою будет «ЛОСЬ»,
Чтобы еЛОСЬ и спаЛОСЬ,
За троих чтобы пиЛОСЬ,
Чтоб хотеЛОСЬ и могЛОСЬ
Чтобы счастье не кончаЛОСЬ,
О хорошем чтоб мечтаЛОСЬ,
Чтобы дело удаваЛОСЬ
Чтобы все всегда сбываЛОСЬ!

***Яўген, ад імя ўсіх сяброў-паляўнічых***

# Цана на звадкаваны газ, які рэалізуецца насельніцтву, павышана больш як у два разы

**Цана на газ звадкаваны, які рэалізуецца насельніцтву ў малалітражных балонах, павялічваецца ў 2,1 раза. Адпаведнае рашэнне зацверджана пастановай Міністэрства эканомікі ад 22 лістапада 2013 года № 87, апублікаванай на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.**

Паводле дакумента, 1 снежня цана на газ звадкаваны для запраўкі газавых балонаў аб'ёмам 1 л (0,4 кг), 5 л (2,0 кг), 12 л (5,0 кг), 27 л (11,4 кг), што рэалізуецца насельніцтву, павялічваецца да 5.400 рублёў за 1 кг.

Павышэнне цэн на звадкаваны газ у малалітражных балонах не датычыцца звадкаванага газу, які рэалізуецца насельніцтву ў балонах аб'ёмам 50 літраў (21 кг), цэны на які рэгулююцца Саветам міністраў Беларусі.

Раней цэны на звадкаваны газ павялічваліся 1 кастрычніка на 4%.

***Марына Носава, БелаПАН.***

## МНС інфармуе
**на 03.12.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 956;
Гібель людзей – 119, з іх 1 дзіця;
Урон – 3899,49 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 44;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма;
Урон – 308.4 млн. руб.

# У 2014 годзе ў Беларусі могуць быць прынятыя меры па абмежаванні імпарту

**У 2014 годзе ўрад плануе рэалізаваць комплекс мер па змяншэнні аб'ёмаў імпарту, гаворыцца ў праекце прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця.**

Зніжэнне імпартных паставак у Беларусь прадугледжана ў тым ліку за кошт «устанаўлення межавай долі імпартнага складальніка ў кошце вырабленай прадукцыі (60%) з выплатай падатку на аб'ём яе перавышэння».

У ліку іншых мер, скіраваных на абмежаванне імпарту, у праекце гаворыцца пра «ўвядзенне ў сістэму ацэнкі працы кіраўнікоў прадпрыемстваў паказчыкаў зніжэння імпартаёмістасці прадукцыі і росту экспарту».

Акрамя гэтага, да зніжэння аб'ёмаў імпарту, на думку распрацоўшчыкаў дакумента, павінна прывесці «ўкараненне гнуткай сістэмы цэнаўтварэння на айчынную прадукцыю з улікам попыту на яе, у тым ліку правядзенне распродажаў тавараў, якія не карыстаюцца попытам».

***БелаПАН.***

